Год I. Чацьвер 22 сьнежня 1921 г. № 1.

# РАНІЦА

**штодзенная, грамадзская, палітычная і літэратурная газэта**

АДРЕС РЭДАКЦЫІ І КАНТОРЫ
Вільня, Вострабрамская № 4, „Hotel Szlachecki" пак. № 2.
Рэдакцыя адчынена што дня, апрача свят, ад 11 да 1 і ад 5 да 7 гадз.

**Цана нумару 20 марак.**
Падпіска на 1 мес. . . 400 марак.
З перасылкай 1 „ . . 500 „
За граніцай ў два разы даражэй.

ЦАНА АБВЕСТАК:
За адзін радок звычайнага друку на 1 стр.—60 м.
ў тэксьце . . . . . . : 75 м.
за тэкстам . . . . . . . 40 м
Для шукаючых працы на 10 прац. таней.

*Вільня 22 сьнежня.*

„Раніца" пачынае сваё жыцьцё як раз у той адпаведны момант, калі прадстаўнікі Заходняй Беларусі на з'езьдзе 11—12 сьнежня г. г. сказалі сваё шчырае слова і вынесьлі ясныя рэзалюцыі, выяўляючыя той пэўны шлях, па якому павінна ісьці беларускае грамадзянства, той кірунак палітычнай мысьлі, які зьўляецца патрэбным і вельмі карысным для нашай беларускай справы.

І цяпер павінна быць для усіх ясна, што толькі стаўшы на гэты шлях мы зможам захаваць сваё нацыянальнае жыцьцё, сваю мову, сваі асабістыя звычаі, спраўдзіць сваю надзею на палітычнае істнаваньне...

Зусім ясна, што ўсё гэта магчыма толькі тады, калі мы на заўсёды парвём з тымі, хто трымаў нас некалькі сталецьцяў у духоўнай і палітычнай няволі, падаўляючы рашучымі спосабамі прабуджэньне нашага нацыянальнага пачуцьця.

Парваць з маскоўцамі і аб'яднацца з тымі, якія разьбіўшы цяжкія кайданы даўгалетняй няволі, ўжо адбудавалі сваё ўласнае гаспадарства, аб'яднацца з Польшчай, не адзін раз у цяжкія часы нашай нядолі, працягваўшай нам брацкую руку з дапамогай.

Гэтае аб'яднаньне будзе для нас вельмі карыстным: калімы можам карыстаць з польскай культуры, якая ў сучасны момант стаіць нязьмерна вышэй, чым гінушчая культура маскоўская. Можам карыстаць і ў эканамічных адносінах, бо толькі з Заходу прывязуць патрэбныя для нас машыны, мануфактуру, нафту і ўсё, бяз чаго цяжка абайсьціся...

Адказ ад аб'яднаньня з Польшчай быў бы вялікай і грубай палітычнай абмылкай, за якую паплаціўся бы беларускі народ ня толькі матэр'яльна, але і духоўна.

Толькі палітычныя авантурысты, якія не зразумелі лекцый гісторыі і палітычнай кон'юктуры апошняга часу, могуць стаяць за іншую палітыку.

А што зрабілі яны, якую карысьць прынясьлі беларускаму народу? — Ні якой!

Барацьбу за самабытнасьць яны—імянуючыя сябе беларускімі „урадамі"—правадзілі толькі ў рэзалюцыях, пастановах, пратэстуючых нотах—і далей гэтага ня йшлі!

„На першым мейсцы ў іх заўсёды стаяла і стаіць барацьба партый і барацьба за ўласьць.

Што ж дзіўнага ў тым што на пражскай нарадзе тых, што баранілі Бацькаўшчыну ад маскоўскіх наездчыкаў назвалі ворагамі беларускага народу?!

Што ж дзіўнага, што Віленскія „дзеячы" вядуць агітацыю проці выбараў у Віленскі Сойм і выдаюць бальшавіцкія праклямацыі і аднаднёўкі з лаянкамі і інсынуацыямі па адрэсу тых, хто ня хоча ісьці з імі па шкоднаму і блуднаму шляху?!

✦✦✦✦

## ТЭЛЕГРАМЫ.

### Весткі з Саудэпіі.

ХАРКАЎ 19.XII (А. В.) Бандытызм у Харкаве павялічываецца. Па начох шмат каго абіраюць на вуліцах. Пераважна здыймаюць адзеньне і боты.

ХАРКАЎ 19.XII (А. В.) З'езд саветаў у Харкаве па выдаткам украінскага ураду пастанавіў выразіць давер'я ураду.

ХАРКАЎ 19.XII (А. В.) Украіньскіе „Извѣстія" аглашаюць вялікі сьпісак растрэляных закладнікаў, якія панясьлі сьмерць за забітых паўстанцамі савецкіх служачых.

### Весткі з за граніцы.

ЛЕНДАН 19.XII (А. В.) Сюды прыехаў з Прагі Савінкаў.

БЭРЛІН 19.XII (А. В.) У суботу, пасьля абеду нямецкі урад атрымаў ад рэпарацыйнай камісыі адказ на сваю апошнюю ноту. Камісія робіць запытаньня, дамагаючыся адказу.

1) Якую частку кантрыбуцыі немцы сплацяць у студні і лютым.

2) На які час яны хочуць адлажыць рэштку сплаты.

3) Якое забесьпечэньне яны дадуць у тым, што тады сплацяць кантрыбуцыю.

БЭРЛІН 19.XII (А. В.) На груньце адказу рэпарацыйнай камісіі немцы спадзяюцца, што камісія не адмовіць у адкладзе сплаты кантрыбуцыі, калі толькі будуць даны забесьпячэньня, у тым, што яна будзе наагул сплачана.

### Весткі з Варшавы.

ВАРШАВА 19.XII (А. В.) Уплыў асабістых падаткаў ад верасьня павялічыўся ў 10 разоў. Агульны ўплыў рожных падаткаў павялічыўся за гэты час ў 8 разоў. За верасень скарыстана ад падаткаў 7.083 мільёны марак.

ВАРШАВА 19.XII (А. В.) У суботу Сойм прыняў у першым пытаньню пастанову аб вайсковай павіннасьці. Служба ў войску будзе цягнуцца 2 гады, у рэзэрве да 40 гадоў жыцьця і ў ратніках апалчэньня да 50 гадоў. У жаўнеры будуць браць у час пакою 21 года, а ў часе вайны—ад 19 гадоў.

ВАРШАВА 18.XII (А. В.) Старшыня французкай місіі ў Варшаве гэн. Нэсэль выязджае да Францыі гдзе атрымывае высокую вайсковую пасаду. На яго мейсца ў Польшчу назначаецца гэн. Дзюпонт.



ВАРШАВА 19.XII (А. В.) Францускія гэнэралы Нэсэль і Дзюпонт былі прыняты старшынёй міністраў п. Панікоўскім.

### На Горным Шлёнзку.

КАТОВІЦЫ 19.XII (А. В.) Кардынаў Бэртрам выдаў да духавенства плябісьцытнай часткі Горн. Шлёнзку адозву, гдзе ён не згаджаецца з цяперашнімі зьменамі ў каталіцкім касьцёле на Горн. Шлёнзку. Стоючы на тым груньце, што нямецкая мова, якая да тых часоў была прывілігіраванай,—кардынал лічыць, што трымаючпа status Зuo ня будзе карыстным для палякоў.

ЛЬВОЎ 19.XII (А. В.) У прайшэдшую суботу у Львове памерла вядомая пісьменіца Габрыэля Запольская.

### Беларуская дэлегацыя ў Варшаве

ВАРШАВА 20.XII Дэлегацыя беларускага з'езду ў Вільні, прыбыла да Варшавы і была на аўдыенцыі ў старшыні міністраў п. Панікоўскага.

Дэлегацыя пасьведчыла, што вясковыя жыхары - беларусы стаяць на груньце польскай дзержаўнасьці.

20 Дэлегацыя атрымае аўдыенцыю у Начальніка Панства.

ВАРШАВА 20.XII. Заўтра выязджае да Шэпэтоўкі мяшаная камісія польскіх і бальшавіцкіх дэлегатаў з мэтай разабрацца ў рэпатрыацыйных, зробляных з боку саветаў.

ВАРШАВА 20.XII. Выясьняецца, што сёлетнія буракі маюць ў сабе значна большы процэнт. цукру чым прашлагоднія. Спадзяваюцца, дзеля гэтага, што здабыча цукру значна павялічыцца.

КАТАВІЦЫ 20.XII (А. В.) Пагранічная камісія ўстанавіла тымчасовую пагранічную лінію. Уступленьня польскага войска на адданую Польшчы частку Горн. Шлёнзку наступіць пасьля заканьчэньня гаспадарчых дагавораў.

Пагранічная лінія ня розьніцца ад лініі, прапанованай ў Жэневе.

### Весткі з за граніцы

ЛЕНДОН 20.XII (А. В.) „Daily Mail" паведамляе, што Брыан, пад час свайго пабыту ў Лёндане будзе дамагацца, каб як найхутчэй выслаць да нямеччыны кантрольную камісію з мэтай выясьненьня яе фінансава-гаспадарчага стану.

ПАРЫЖ 20.XII (А. В.) Францускія газэты цьвердзяць аб тым, што немцы толькі тады будуць мець права адлажыць сплату кантрыбуцыі, калі дакажуць, што цяпер яны яе ня могуць сплаціць.

Парыжскія газэты дамагаюцца высылкі да нямеччыны кантрольнай камісіі дзеля выясьненьня яе фінансавага стану.

✦✦✦✦

## Фальш аб Беларускім з'езьдзе.

У расейскай газэце „Віленскае Утра" (№ 67) у хроніцэ надрукована тэндэнцыйная заметка так званага „Беларускага Нацыянальнага Камітэту" у якім стараюцца умаліць значэньне адбыўшагася 11-12 сьнежня з'езду прадстаўнікоў Заходняй Беларусі.

Заметка гэтая ад пачатку да канца —адна няпраўда і фальш.

Перш усяго Беларускі Нацыянальны Камітэт ня толькі не з'яўляецца „едзіным прадстаўніком усяго Беларускаго грамадзянства", але ёсьць вельмі маленькая інстытуцыя, не апіраючаяся ні на якую рэальную сілу, інстытуцыя навет мала вядомая шырокім кругам беларускага грамадзянства.

Другое,—няпраўда, што на з'езьдзе прадстаўнікоў Заходняй Беларусі Беларускае грамадсянства ні бы та не прымала учасьця.

Наадварот, у гэтым з'езьдзе прынялі учасьце наймацнейшыя беларускія арганізацыі, якія істнуюць з даўніх часоў на нашай Бацькаўшчыне, хоць яны і ня ведамы Бел. Нац. Камітэту.

На з'езьдзе праўда, ня былі запрошаны прадстаўнікі тых віленскіх беларускіх арганізацый, якія ня маючы нічога супольнага з беларускім сялянствам, жадаюць зрабіцца правадырамі беларускага руху, каб зьбіць яго з пэўнага шляху і скарыстаць дзеля ворагаў беларускага народу.

Прадстаўнікі гэтых беларускіх арганізацый жадалі вайсьці на з'езд, як няпрошаныя і непажаданыя госьці.

Вайсьці і перашкодзіць працу, зрабіць гвалт і усе гэта толькі дзеля таго, каб з'езд ня выявіў волі беларускага народу, каб штучна праканаць, што беларусы ні бы та разам з ліцьвінамі і жыдамі не жадаюць прыняць учасьця у выбарах у Віленскі Сойм.

Але гэта ім ня удалося. На з'езьдзе было шмат беларусаў, якія пралівалі сваю кроў у барацьбе за родную зямельку, якія цьверда ідуць па пэўнаму шляху і ні на якія авантуры ня згодзяцца...

Сярод іх панаваў едзіны дух, едзіны настрой і ўсе забегі перашкодзіць працэ з'езду разьвеяліся як дым.

З'езд зрабіў тую справу, дзеля каторай ён зьбіраўся. Аб гэтым сьведчаць рэзалюцыі, едзінадушна прынятыя усімі прадстаўнікамі.

Хай увесь сьвет ведае, чаго жадае беларускі народ, з кім ён пойдзе і на каго спадзяецца. В.

✦✦✦✦

## Навакола выбараў у Сойм.

### Мітынг на Пагулянцы.

На Пагулянцы, у тэатральным будынку адбыўся мітынг Польскага Цэнтральнага Выбарчага Камітэту. Мітынг адчыніў прэзыдэнт Банькоўскі. У ліку прамоўцаў былі: дэпутаты сойму кс. Лютаслаўскі, Дымоўскі, Рудніцкі а роўна-ж і п. Баршоўскі. Прамоўцы зьвярталіся да грамадзянства каб яно галасавала толькі за тых кандыдатаў, якія дадуць фармальнае дэклараваньне стаяць на груньце прылучэньня Віленшчыны да Польшчы.

РЭЗАЛЮЦЫЯ МІТЫНГУ.

На мітынгу жыхароў м. Вільні, сабраных праз Польскі Цэнтральны Выбарчы Камітэт 18.XII 1921 г. вынесена гэтакая рэзалюцыя:

1) Абавязкова далучыць Віленшчыну да Польшчы.

водзячых камуністычную агітацыю, а так сама асобаў, выступаючых ад імені ураду Ластоўскага, знаходзячагася ў Коўне і абсалютна нічога ня маючых супольнаца з Беларускім народам.

2. У справе помачы уцекачам..,

Няшчасная Беларусь у большай сваей часьці аплывае крывёю пад тэрорыстычным урадам маскоўскіх камуністаў. Шмат беларускіх семьяў, якім пагражала катаваньне чрэзвычаек, разкінулася па Польшчы па прыфронтавай паласе, без адзежы, без страхі· Людзі гэныя гінуць і выміраюць у самых страшэнных варунках. Зьезд горача кліча Польскі урад і гуманістныя установы Заходніх Дзяржаў адклікнуцца на мучэньне гэтых няшчасных і прыйсьці да іх з найхутчэйшай помачу.

3. Па эканамічнаму пытаньню.

1. Прызваць Польскі Урад, каб не рабіў згубнае гаспадаркі ў белавежкіх лясох, а вёў яе рацыянальна.

2. З'езд стаіць на грунце як можна шырэйшага пашырэньня руху эканамічнага на Беларусі, каторая знаходзіцца ў граніцах Рэчы-паспалітай Польскай З'езд з'вяртаецца да Польскага Ураду аб выдачы строгага прыказу мейсцовым Уладам Польскім, каб у руху эканамічным Беларускім не рабілі ніякіх перашкод.

3. Бачучы на тое, што коопэратывы на Беларусі абслужываюць найшырэйшыя слаі грамадзянства Беларускага, з'езд зьвяртаецца да Польскага Ураду з тым, каб апошні ўдзяліў крэдыты дзеля Беларускіх Коопэратываў.

4. Зьезд просіць Польскі Урад даць як найшырэйшую помач матэрыяльную уцекачом Беларусам і каб у склад тых арганізацыяў, каторыя будуць нясьці помач уваходзілі прадстаўнікі ад Беларускага народу.

4. Па школьнаму пытаньню

Утварэньня сеткі беларускіх школ там гдзе гэтага хоча насяленьне; усе школы павінны утрымоўвацца на скарбовы кошт, на агульным палажэньні з польскімі і на агул беларускія школы павінна карыстацца усімі правамі школ польскіх, а істнуючыя цяпер прыватныя школы павінны быць прыняты на скарбовы кошт з часу адчыненьня іх.

2. Назначыць пры павятовых школьных інспэктарох беларускіх інструктароў, ад асьветнага аддзелу Краёвай Сувязі, якія-б былі незалежны ад апошніх і якія-б былі лучнікамі паміж вучыцельствам і школьнай польскай уладай.

Павятовыя інспэктары і мясцовыя улады павінны спыніць сваю варожую барацьбу з беларускай школай.

3. Перастаць выводзіць беларускае вучыцельства на курсы ў Польшчу і адчыніць каротка-часовыя курсы польскай мовы ў вадным з беларускіх мест у канікулярны час, так сама адчыніць у сёлетнім годзе Беларускую Вучыцельскую Сэмінарыю. Субсыдыраваць усе клясы ў беларускіх гімназіях і іншых сярэдніх школах.

4. Адпусьціць значныя крэдыты на выданьне беларускіх школьных падручнікаў.

5) Адчыніць пры Міністэрстве Асьветы Беларускі школьны аддзел.

6. Утварыць Беларускую Катэдру пры Віленскім Універсытэце Сьцяпана Баторага.

7. Назначаць у школы вучыцелямі тых, каторыя маюць званьне вучыцеля, а для тых каторыя не праслухалі курсаў беларусазнаўства адчыняць курсы.

8. Перамясьціць зараз жа з беларускіх школ польскіх вучыцеляў і вучыцеляк, прысланых школьнымі інспэктарамі насільна гдзе сялянства іх ня хоча.

9. Назначаць вучыцялямі ў беларускія школы тых вучыцялёў за каторых просяць сяляне, калі вучыцель дае на гэта згоду.

10. Заняцьця ў беларускай школе павінныісьці па праграме, выданай у Менску Беларускай школьнай Радай у 1920 годзе.

11. Запрасіць Кіраўнікам Асьвятовага аддзелу пры Камітэце Краёвай Сувязі вядомага практычнага пэдагога і і школьнаго дзеяча Сымона Рак-Міхалоўскага.

12. Свабодная пастаноўка беларускіх спэктакляў і утварэньня асьветных гурткоў, бібліатэк і чытальняў.

13. Свабодныя пэрыодычныя зьезды беларускага вучыцельства.

14. Адпусьціць патрэбныя грошы на выданьне навуковых падручнікаў і журналаў.

15. Дамагацца Аўтаномнай беларускай школы.

5. Плятформа з'езду.

1. Прымаючы пад увагу, што на зьезьдзе Заходняе Беларусі усё сямейства а роўным чынам прадстаўнікі усіх партый і арганізацый усіх абшараў Беларусі дайшлі да згоды па плятформе на якую ў цягчайшых варунках стаў камітэт Краёвай Сувязі.

2. Цьвёрда веручы, што гэная плятформа з яго галоднымі пастулятамі — нацыянальнага адраджэньня нашай Бацькаўшчыны і аўтанамічнай лучнасьпі з Польшчай ёсьць адзіны праўдзівы шлях, мы аднагалосна абяцаем падтрымліваць і пашыраць сярод нашага грамадзянства ідэі і мэты той крыніцы беларускага адраджэнчаскага руху, якой зьўляецца Камітэт Краёвай Сувязі.

3. Падкрэсьліўшы свае шчырае прыхільнае адносіны да гэтага камітэту мы верым, як польскі народ у асобе свайго вышэйшага прадстаўніцтва—сойма таксама і урад Рэчыпаспалітай Польскай падтрымае гэную крыніцу нашага нацыянальнага адраджэнскага руху.

6) па зямельнаму пытаньню.

1. Зьезд у зямельным пытаньні стаіць на агульных асновах аграрнай рэформы, прынятай Польскім Соймам і зацьверджанай Канстытуцыяй і выражае пажаданьне найхутчэйшага правядзеньня гэтай рэформы ў жыцьцё.

2. Зьезд выражае дамаганьне, каб пры парцэляцыі маёнткаў, зямля пашла ў паддзел толькі паміж мяйсцовым сялянствам і каб у першы чарод зямлёю задавольніць беззямельных і малазямельных.

3. Выходзячы з гэтых агульных асноў Зьезд выражае дамаганьні: а) каб пры парцэляцыі маёнткаў зямля сэрвітутная не магла адыйсьці на старану, а пераходзіла да тых вёсак якія мелі на яе сэрвітутныя правы, в) каб уся зямля, якая калі б то ні была ўзята ў сялян і з каторай сфармаваліся дробныя маёнткі і фальваркі, была зьвернута тэй вёсцы, ад якой яна была адабрана, а ўсе дэтызіі, прынятыя камісіяй па абсьледаваньню казённых зямель і аброчных стацей ад 1913 году былі скасаваны на карысьць вастанаўленьня правоў сялянства, каб землі адсутных бежанцаў да іх звароту аддаваліся ў бязплатную арэнду сялянам па парадку, які павінен быць прыняты пры парцэляцыі і каб землі гэтыя ня йшлі ў падзел.

4. Прыймаючы пад увагу, што багацьце нашага краю лясы ў сучасны момант у цэлым радзе паветаў, як то Баранавіцкім, Лунінецкім, Несьвіжскім, Стаўпецкім, Ашмянскім і інш. нішчацца зьнішчажаюцца да рэшты. Зьезд даводзіць да ведама Польскага Ураду з просьбай прыняцьця зараз-жа рашучых мер проці нішчаньня нашага багацьця — лесу, а так сама залежных крокаў да хутчэйшага пераходу лясоў у дзяржаўную ўласнасьць і вотпуску лесу гаспадаром патрабуючым яго па найлягчэйшых варунках.

Зьезд лічыць патрэбным зьвярнуць увагу Ураду на факт істнаваньня спэкулятыўнай прадажы зямлі навет у мясцох, гдзе вёскі калісьці адбывалі паншчыну. Зьезд лічыць, што зямельныя камітэты часта ня выкановываюць даручаных ім заданьняў і не змагаюцца з зямельнай спэкуляцыяй належным энэргічным парадкам.

✦✦✦✦

# Хто ты?

Я ішоў шляхам жыцьця, змарыўся прысеў ля краю дарогі пад старай бярозай.. Язык мой высах. Я хацеў піць і ня хто ня даў мне вады . . . . . .
Я ўсё іду, іду і іду бяз канца, а краю дарогі няма , . . . .

Я бачыў вёскі. Хаты ў іх былі крыты гліняным чарап'ем, сьцены збудованы былі з цэглай, шыбы блішчэлі як люстры, а ў сярэдзіне было чыста, ціха, спакойна і жылі ў іх багатыя людзі. Хто яны, я ня ведаў. Прасіў ад іх хлеба і мне давалі пірага, прасіў вады — давалі віна . . . . . .
Доўга глядзелі яны на мае пабітыя ногі, на рваную адзежу,ківалі галавамі. Пыталі мяне: Хто ты? Адкуль? . .

— „Я адтуль, адказываў я і ішоў далей . . . . . . . . . .

Я ня ведаў добра, адкуль я і хто я
Я быў чалавек, які павінен ісьці усё сваё жыцьцё сваім шляхам і толькі сваім, бо іншага ў мяне няма“.

Я шоў далей і шмат чаго бачыў .

Я бачыў вёскі. Хаты быді крыты саломай, сасновыя былі сьцены ў іх.

У сярэдзіне іх было брудна, цёмна, бо скрозь маленькія шыбы ледзьве пранікаў сьвет Божы. У хатах гэтых жылі людзі такія-ж абдзёртыя, як і я, і яны ня дзівіліся, гледзячы на мяне.

Я папрасіў хлеба — давалі мне скарынку, за якой цягнулася маленькая брудная ручка галоднага дзіцяці, і я ня мог браць гэтай скарынкі, ніжэй апускаў галаву і адходзіў . . . . . . .

Такіх вёсак было балей і мала не ля кожнай вёскі ў канцы, трохі далей, стаялі высокія будынкі з пекнымі сьценамі, крышай і вокнамі. Жылі там людзі з белымі тварамі і рукамі, у багатай адзежы. Яны сядзелі на бальконах будынкаў сваіх, пілі віно, весела гаманілі, сьмяяліся . . . Я падхадзіў да плота, нізка кланяўся ім, ёнчыў, прісіў . . .

Людзі змаўкалі, перегляддаліся паміж сабой, паціскалі плячмі, нібы дзівіліся як сьмеў я перашкодзіць іх вясельлю і гналі мяне слугі іх, рвалі адзеньне і цела мае іх сабакі . . . . . . . .

Я уцякаў ад плоту і уходзіў . .

Я ішоў далей . . . . , . . . .

Цяпер я змарыўся сілы няма ў мяне ісьці далей . . . Я сеў ля краю дарогі, ля старай бярозы . . . . .

Я шмат зямлі ісхадзіў. Мяне шмат хто пытаў: Хто ты? Хто ты?“

Хто ты, ха, ха, ха! Сьмешныя людзі! Ці вы ня бачыце хто я? Ха, ха, ха!

Сьмешныя людзі! Хто я? . . . .

Прыгледзьцеся добра; Вось з апушчанай галавой за плугам, які цягнуць добрыя коні па добрай чорнай зямлі, ледзьве пасьпявае за сытымі конямі, худы, з чорным тварам, як сама зямля чалавек.

Вось так сама потам абліты ідзе за сахой, якую ледзьве цягне худы як шкілет маленькі канёк, па пяску . . . .

А вось у гайданы закуты, зьбіты, з кроў'ю застыўшай на твары ідзе пад стражай . . . . . . .

Спытайце — Хто ты?

А пабачце сюды: тутака некалі былі вёскі, былі хаты, а цяпер вецер хістае па гэтых мяйсцох крапіву і дзікую траву . . . . . . .

А гдзе ўсе яны, што калісь тутака жылі ў хатах? Глянь, бачыш: адзін за адным з торбамі за плячамі, з кіямі, ледзьве плятуцца, сонцам апаляныя, дажджом палітыя, ветрам і людзьмі ганімыя...

Гэта яны! Тыя! Ха, ха, ха, і да гэтуль вы ня ведаеце і пытаеце
«Хто ты?»

Ды я той, што ня мае прытулку на роднай сваёй зямельцы, у роднай хаце сваёй не гаспадар!

Я той, над якім усе сьмяюцца і пры жыцьці і на сьмерці, над мовай маей, над звычаем, над усім сьмяюцца!

Я той, каторый капаў канавы, строіў чугункі, фабрыкі, заклады і навет кайданы рабіў з залеза, каб самому адзець іх сабе на рукі і ногі . . .

Я усё той самы — сын беднай маці Беларусі!

Дык ня пытайце мяне болей людзі «Хто ты?»

Цяпер я змарыўся, бо доўга ішоў шляхам жыцьця. Бачыце — прысеў ля краю дарогі ля старой бярозы . . .

Ня сьмейцеся не ганіце, я толькі адпачну і ня пытайце балей. Хто ты, бо ведаце самі, хто я...

Дзяргач.

29 траўня 1921 г. в. Лепенькі.

✦✦✦✦

## Справачны аддзел.

### Самаход.

З 21 сьнежня пачынае езьдзіць па Вільні і ваколіцах самаход пад № 15. У горадзе — плата па гадзінам; у ваколіцах — 3 вярсты. Запіс пасажыраў вядзецца ў кнігарні „Лектар“ (вуліца Адама Міцкевіча № 4).

### Прадажа спальных мейсц.

Польскае бюро „Orbis“ з 21 сьнежня пачала прадаваць білеты на спальныя мейсцы у вагонах „Международовага вобчаства спальных вагонаў“ прадажа вядзецца ў канторы „T-wa Pacifis“ (вуліца А. Міцкевіча, 12 тэлеф. № 229.)

### У Краёвай Сувязі.

Грамадзянін Адам Курыловіч 15 сьнежня назначан ад Краёвай Сувязі камісарам па выбарах ў віленскі сойм на абшары Сярэдняе Літвы.

## Курс на грошы ў Вільні

21 сьнежня 1921 г.

| | |
|---|---|
| Царскія 500 р. | 850 |
| „ 100 р. | 600 |
| Дробныя па 25 р. | 180 |
| „ па 10 р. | 120 |
| Думскія (1000 р.) | 250 |
| „ (250 р.) | 150 |
| Нямецкія маркі | 17 |
| Осты | 17 |
| Фунты | 18100 |
| Даляры | 3050 |
| 10 руб. золатам | 14800 |

## Абвесткі.



Рэдактар і Выдавец Вацлаў Адамовіч.
(Друкарня ДРУК), Субач, 2.